НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

Пратэст пракурора падлягае абавязковаму разгляду органам або службовай асобай, якім ён накіраваны, не пазней чым у дзесяцідзённы тэрмін пасля яго паступлення, а мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў — на чарговых сесіях. Пры разглядзе пратэсту калегіяльным органам аб дні пасяджэння загадзя паведамляецца пракурору, які мае права прыняць удзел у яго разглядзе. Аб выніках разгляду пратэсту пісьмова паведамляецца пракурору. Прынясенне пратэсту прыпыняе дзеянне акта, які супярэчыць закону, да яго разгляду.

У выпадку неразгляду пратэсту ва ўстаноўлены тэрмін або яго адхілення пракурор мае права звярнуцца ў суд з заявай аб адмене акта, які супярэчыць закону, або спыненні незаконных дзеянняў. Падача пракурорам заявы ў суд прыпыняе дзеянне апратэставанага акта.

Пратэст на пастанову суддзі па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні прыносіцца суддзі, які вынес пастанову, або старшыні вышэйстаячага суда і падлягае разгляду ў трохдзённы тэрмін.

Парадак апратэставання судовых рашэнняў па грамадзянскіх і крымінальных справах рэгламентуецца гэтым Законам і адпаведным працэсуальным заканадаўствам.

**Артыкул 36. Прадстаўленне**

Прадстаўленне пракурора аб устараненні парушэнняў закона, прычын парушэнняў і ўмоў, якія ім садзейнічаюць, уносіцца ў орган або службовай асобе, правамоцным іх устараніць.

Прадстаўленне падлягае неадкладнаму разгляду. Аб прынятых мерах у месячны тэрмін павінна быць пісьмова паведамлена пракурору. Пры разглядзе прадстаўлення калегіяльным органам пракурору загадзя паведамляецца аб дні пасяджэння, у якім ён мае права прыняць удзел.

**Артыкул 37. Пастанова**

Пракурор у залежнасці ад характару парушэння закона службовай асобай або грамадзянінам выносіць матываваную пастанову аб узбуджэнні крымінальнай справы, аб адміністрацыйным правапарушэнні, аб узбуджэнні дысцыплінарнай справы. Матываваная пастанова можа выносіцца пракурорам і ў іншых выпадках як форма выражэння яго патрабаванняў.

Пастанова аб адміністрацыйным правапарушэнні падлягае разгляду органам або службовай асобай, правамоцнымі накладаць адміністрацыйнае спагнанне, у тэрміны і парадку, устаноўленыя для разгляду пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні.

Пастанова пракурора аб узбуджэнні дысцыплінарнай справы падлягае разгляду адпаведным органам або службовай асобай у дзесяцідзённы тэрмін з дня яе паступлення. Аб выніках разгляду пісьмова паведамляецца пракурору.

Іншыя пастановы пракурора падлягаюць разгляду і выкананню ва ўстаноўлены ім тэрмін.

**Артыкул 38. Прадпісанне**

Пісьмовае прадпісанне аб устараненні парушэння закона накіроўваецца органу або службовай асобе, якія дапусцілі парушэнне, або вышэйстаячаму ў парадку падпарадкаванасці органу або службовай асобе, правамоцным устараніць допушчанае парушэнне.

Прадпісанне выносіцца ў выпадках, калі парушэнне закона носіць яўны характар і можа прычыніць істотную шкоду правам і законным інтарэсам дзяржавы, прадпрыемства, установы, арганізацыі або грамадзяніна.

У прадпісанні павінны змяшчацца ўказанне на норму закона, якая аказалася парушанай, і прапанова аб мерах па аднаўленню законнасці.

Прадпісанне падлягае неадкладнаму выкананню, аб чым адразу паведамляецца пракурору.

Пры нязгодзе з патрабаваннем, што змяшчаецца ў прадпісанні, яно можа быць абскарджана вышэйстаячаму пракурору, які абавязаны разгледзець такую скаргу ў дзесяцідзённы тэрмін. Абскарджанне не прыпыняе выканання прадпісання.

**Артыкул 39. Афіцыяльнае папярэджанне**

У мэтах папярэджання правапарушэнняў пры наяўнасці звестак аб проціпраўных дзеяннях, якія рыхтуюцца, пракурор пісьмова аб'яўляе службовай асобе або грамадзяніну афіцыяльнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння закона.

У выпадку невыканання патрабаванняў, выкладзеных у афіцыяльным папярэджанні, асоба, якой яно аб'яўлена, можа быць прыцягнута да адказнасці ва ўстаноўленым законам парадку.

Пры нязгодзе з афіцыяльным папярэджаннем асоба, якой яно аб'яўлена, мае права абскардзіць яго вышэйстаячаму пракурору.

## Раздзел IV. Кадры органаў пракуратуры

**Артыкул 40. Патрабаванні, што прад'яўляюцца да асоб, якія назначаюцца на пасады ў органы пракуратуры**

Пракурорамі і следчымі могуць назначацца грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія маюць вышэйшую юрыдычную адукацыю і валодаюць неабходнымі асабістымі дзелавымі і маральнымі якасцямі. На гэтыя пасады не могуць быць назначаны асобы, якія раней учынілі злачынствы.

Асобы, якія не маюць вопыту практычнай работы па спецыяльнасці, праходзяць у органах пракуратуры стажыраванне на працягу шасці месяцаў. Парадак стажыравання вызначаецца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь.

Пракурорскія работнікі падлягаюць атэстацыі ў парадку, які вызначаецца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь.

Аказанне пракурорскімі работнікамі платных юрыдычных паслуг, заняцце прадпрымальніцкай дзейнасцю, а таксама сумяшчальніцтва іх службы ў органах пракуратуры з работай на прадпрыемствах, ва ўстановах або ў арганізацыях не дапускаюцца, за выключэннем навуковай, педагагічнай і творчай дзейнасці.

**Артыкул 41. Класныя чыны (воінскія званні) пракурорскіх работнікаў**

Пракурорскім работнікам прысвойваюцца ў адпаведнасці з займаемымі імі пасадамі і стажам работы класныя чыны (воінскія званні).

Класныя чыны дзяржаўнага саветніка юстыцыі першага, другога і трэцяга класа прысвойваюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Іншыя класныя чыны прысвойваюцца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь. Пракурорскім работнікам ваенных пракуратур воінскія званні прысвойваюцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

**Артыкул 42. Заахвочванні і адказнасць пракурорскіх работнікаў**

Пракурорскія работнікі абавязаны дзейнічаць у межах сваіх службовых паўнамоцтваў. У выпадку атрымання незаконнага распараджэння яны абавязаны адмовіцца ад яго выканання і паведаміць аб гэтым вышэйстаячаму пракурору, а ў выпадку атрымання такога распараджэння ад Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь — у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

За невыкананне або неналежнае выкананне службовых абавязкаў, злоўжыванне ўладай, перавышэнне службовых паўнамоцтваў, іншыя парушэнні законнасці пракурорскія работнікі нясуць дысцыплінарную, грамадзянска-прававую, крымінальную адказнасць у парадку, устаноўленым законам.

Парадак заахвочвання і прыцягнення да адказнасці пракурорскіх работнікаў устанаўліваецца Палажэннем аб праходжанні службы ў органах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 43. Матэрыяльнае і сацыяльнае забеспячэнне пракурорскіх работнікаў**

Грашовае забеспячэнне пракурорскіх работнікаў складаецца са службовых акладаў, даплат за класныя чыны (воінскія званні) і выслугу гадоў і павінна забяспечваць дастатковыя матэрыяльныя ўмовы для незалежнага выканання службовых абавязкаў і замацавання кваліфікаваных кадраў. Размеры службовых акладаў, даплат за класныя чыны (воінскія званні) і выслугу гадоў вызначаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Пракурорскім работнікам прадастаўляюцца штогадовыя водпускі працягласцю 30 каляндарных дзён. Пракурорскім работнікам прадастаўляюцца таксама дадатковыя аплатныя водпускі пасля 10 гадоў работы ў органах пракуратуры працягласцю 5 каляндарных дзён, пасля 15 гадоў работы — працягласцю 10 каляндарных дзён, пасля 20 гадоў работы — працягласцю 15 каляндарных дзён.

Мясцовы Савет народных дэпутатаў абавязаны прадаставіць пракурорскаму работніку, які мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, жылое памяшканне ў выглядзе асобнай добраўпарадкаванай кватэры або дома на працягу шасці месяцаў з дня падачы заявы. У такім жа парадку вырашаюцца пытанні ўстаноўкі дамашняга тэлефона і прадастаўлення месцаў у дзіцячых дашкольных установах.

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў могуць перадаваць жыллё, што займаюць сем'і пракурорскіх работнікаў, у іх уласнасць бясплатна або са скідкай да 70 працэнтаў яго кошту. Жылая плошча, што займаюць сем'і пракурорскіх работнікаў, якія праслужылі ў органах пракуратуры не менш 20 каляндарных гадоў, перадаецца ў іх уласнасць бясплатна ў адпаведнасці з жыллёвымі квотамі, устаноўленымі заканадаўствам.

Пракурорскім работнікам па іх жаданню замест прадастаўлення жылля ў адпаведнасці з часткай трэцяй гэтага артыкула прадастаўляюцца льготныя банкаўскія крэдыты на індывідуальнае і кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва ў парадку, устаноўленым Урадам Рэспублікі Беларусь.

На пракурорскіх работнікаў, якія звольнены са службы з органаў пракуратуры ў сувязі з інваліднасцю і маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, распаўсюджваецца дзеянне частак трэцяй, чацвёртай і пятай гэтага артыкула.

У выпадку гібелі пракурорскага работніка пры выкананні службовых абавязкаў за сям'ёй загінуўшага захоўваецца права на атрыманне добраўпарадкаванага жылога памяшкання на тых жа падставах і ўмовах, якія мелі месца на момант гібелі работніка.

Пракурорскія работнікі маюць права выхаду на пенсію незалежна ад узросту пры наяўнасці 20-гадовага стажу работы ў следчым апараце. За кожны наступны поўны год работы ў следчым апараце звыш 20 гадоў пенсія павялічваецца на 3 працэнты адпаведных сум грашовага забеспячэння, але ўсяго не больш 75 працэнтаў гэтых сум. Парадак і размеры пенсіённага забеспячэння ў выпадку выхаду пракурорскіх работнікаў на пенсію ўстанаўліваюцца заканадаўствам зыходзячы з сум іх грашовага забеспячэння.

За пракурорскімі работнікамі пасля выхаду на пенсію захоўваецца права медыцынскага абслугоўвання ў лячэбных установах, у якіх яны знаходзяцца на ўліку.

**Артыкул 44. Меры прававой і сацыяльнай абароны пракурорскіх работнікаў**

Пракурорскія работнікі з'яўляюцца прадстаўнікамі дзяржаўнай улады, пры выкананні службовых абавязкаў недатыкальныя і знаходзяцца пад асобай абаронай дзяржавы.

Крымінальная справа ў адносінах да пракурорскага работніка можа быць узбуджана толькі Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь або яго намеснікам. Пракурорскія работнікі могуць быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выпадках і парадку, прадугледжаных заканадаўствам.

Пракурорскія работнікі падлягаюць абавязковаму асабістаму страхаванню на выпадак гібелі (смерці), ранення (кантузіі), калецтва, захворвання, атрыманых пры выкананні службовых абавязкаў, за кошт сродкаў пракуратуры. Парадак і ўмовы страхавання вызначаюцца Урадам Рэспублікі Беларусь.

У выпадку гібелі (смерці) пракурорскага работніка пры выкананні службовых абавязкаў або смерці, што наступіла ў выніку ранення (кантузіі), калецтва, захворвання, атрыманых пры выкананні службовых абавязкаў, да заканчэння аднаго года пасля звальнення з органаў пракуратуры, страхавая сума выплачваецца сям'і загінуўшага (памёршага) або асобам, якія знаходзяцца на яго ўтрыманні, у размеры 250 мінімальных заработных плат.

Пры ўстанаўленні пракурорскім работнікам інваліднасці, якая звязана з выкананнем імі службовых абавязкаў або наступіла ў выпадку ранення (кантузіі), калецтва, атрыманых пры выкананні службовых абавязкаў, выплачваюцца страхавыя сумы ў размерах:

інваліду I групы — 100 мінімальных заработных плат;

інваліду II групы — 75 мінімальных заработных плат;

інваліду III групы — 50 мінімальных заработных плат.

Пры атрыманні пракурорскім работнікам пры выкананні службовых абавязкаў цяжкага ранення, якое не выклікала інваліднасці, яму выплачваецца страхавая сума ў размеры 10 мінімальных заработных плат, лёгкага ранення — 5 мінімальных заработных плат.

У парадку і размерах, указаных у частках чацвёртай, пятай і шостай гэтага артыкула, праводзяцца выплаты і ў выпадках прычынення шкоды здароўю або гібелі членаў сям'і (утрыманцаў) пракурорскіх работнікаў у сувязі з выкананнем апошнімі службовых абавязкаў.

Урон маёмасці пракурорскага работніка, прычынены ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў, пакрываецца ў поўным аб'ёме са сродкаў дзяржаўнага бюджэту.

Пракурорскія работнікі пры выкананні службовых абавязкаў маюць права па службоваму пасведчанню бясплатна карыстацца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь усімі відамі грамадскага транспарту гарадскіх, прыгарадных і мясцовых зносін (акрамя таксі); пры накіраванні ў службовыя камандзіроўкі карыстаюцца правам браніравання і атрымання без чаргі месцаў у гасцініцах і набыцця праязных дакументаў на ўсе віды транспарту.

Пракурорскія работнікі вызваляюцца ад праходжання воінскіх збораў.

Пракурорскія работнікі маюць права захоўвання, нашэння і прымянення агнястрэльнай зброі, а таксама боепрыпасаў да яе.

## Раздзел V. Іншыя пытанні арганізацыі і дзейнасці пракуратуры

**Артыкул 45. Вучэбныя ўстановы і іншыя ўстановы і арганізацыі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь**

Пракуратура Рэспублікі Беларусь можа ствараць вучэбныя ўстановы, установы па павышэнню кваліфікацыі, выпускаць спецыяльныя выданні, мець паліграфічнае прадпрыемства.

**Артыкул 46. Фінансаванне і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне органаў пракуратуры**

Фінансаванне і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне органаў пракуратуры ажыццяўляюцца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Памеры асігнаванняў на ўтрыманне органаў пракуратуры зацвярджаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў абавязаны забяспечыць размешчаныя на іх тэрыторыі органы пракуратуры адпаведнымі службовымі памяшканнямі на ўмовах арэнды, а таксама сродкамі сувязі.

Транспартнымі і тэхнічнымі сродкамі органы пракуратуры забяспечваюцца ў цэнтралізаваным парадку Урадам Рэспублікі Беларусь за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту.

**Артыкул 47. Затраты органаў пракуратуры**

Затраты па аплаце сярэдняга заработку, праезду і найму жылых памяшканняў асобам, якія выклікаюцца да пракурорскіх работнікаў, па выплаце ўзнагароджання экспертам, перакладчыкам і іншым спецыялістам, што прыцягваюцца для выканання даручэнняў пракурорскіх работнікаў, праводзяцца са сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Парадак і размеры сродкаў, якія выдзяляюцца органам пракуратуры на гэтыя мэты, устанаўліваюцца Урадам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 48. Форменнае адзенне і пасведчанне пракурорскага работніка**

Пракурорскія работнікі забяспечваюцца бясплатным форменным абмундзіраваннем, апісанне, парадак і нормы выдачы якога ўстанаўліваюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Пракурорскія работнікі маюць службовае пасведчанне, узор якога зацвярджае Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 49. Пячатка пракуратуры**

Рэспубліканская пракуратура і падпарадкаваныя ёй пракуратуры маюць пячаткі з выявай Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і сваёй назвай.

**Артыкул 50. Растлумачэнне некаторых назваў, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе**

Пад назвай "пракурор", калі іншае прама не агаворана ў гэтым Законе, трэба разумець: Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь і ўсе ніжэйстаячыя пракуроры, іх намеснікі, старшыя памочнікі і памочнікі, старшыя пракуроры і пракуроры галоўных упраўленняў, упраўленняў і аддзелаў, якія дзейнічаюць у межах сваёй кампетэнцыі.

Пад назвай "пракурорскія работнікі" трэба разумець работнікаў пракуратуры, якія маюць класныя чыны (воінскія званні), а таксама стажораў пракуратуры.

Старшыня Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
**С.ШУШКЕВІЧ.**

29 студзеня 1993 г.
г.Мінск. N 2139-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь" з дня яго апублікавання.

2. Устанавіць, што нормы гэтага Закона аб паўнамоцтвах пракурораў па нагляду за выкананнем законаў органамі, якія ажыццяўляюць аператыўна-вышуковую дзейнасць, дазнанне і папярэдняе следства, за адпаведнасцю закону судовых рашэнняў, а таксама аб ажыццяўленні папярэдняга следства органамі пракуратуры прымяняюцца да ўвядзення ў дзеянне новых Крымінальна-працэсуальнага і Грамадзянскага працэсуальнага кодэксаў Рэспублікі Беларусь.

3. Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю, Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь сумесна з рэспубліканскай пракуратурай і Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь унесці на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праект Палажэння аб праходжанні службы ў органах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

4. Устанавіць, што парадак і ўмовы захоўвання, нашэння і прымянення пракурорскімі работнікамі агнястрэльнай зброі вызначаюцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб міліцыі".

5. Рэспубліканскай пракуратуры ў трохмесячны тэрмін унесці ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь".

6. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у трохмесячны тэрмін:

прывесці рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь";

вызначыць парадак і ўмовы дзяржаўнага абавязковага асабістага страхавання пракурорскіх работнікаў;

прадугледзець выдзяленне Пракуратуры Рэспублікі Беларусь асігнаванняў на будаўніцтва службовых памяшканняў, жылля, набыццё мэблі, аўтатранспартных сродкаў і аргтэхнікі, уключаючы крыміналістычную.

Старшыня Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
**С.ШУШКЕВІЧ.**

29 студзеня 1993 г.
г.Мінск. N 2140-XII

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб патэнтах на вынаходствы

## Раздзел I. Вынаходства і яго прававая ахова

**Артыкул 1. Умовы патэнтаздольнасці вынаходства**

1. Вынаходству прадастаўляецца прававая ахова, калі яно з'яўляецца новым, мае вынаходніцкі ўзровень і прамыслова прымяняльнае.

Вынаходства прызнаецца новым, калі яно не з'яўляецца часткай вядомага ўзроўню тэхнікі, які вызначаецца па ўсіх відах звестак, агульнадаступных у Рэспубліцы Беларусь або замежных краінах да даты прыярытэту вынаходства.

Вынаходства мае вынаходніцкі ўзровень, калі яно для спецыяліста яўным чынам не вынікае з узроўню тэхнікі.

Вынаходства з'яўляецца прамыслова прымяняльным, калі яно можа быць выраблена ці выкарыстана ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, ахове здароўя і іншых галінах гаспадарчай дзейнасці.

2. Аб'ектамі вынаходстваў могуць з'яўляцца:

устройства;

спосаб;

рэчыва;

штам мікраарганізма, культуры клетак раслін і жывёл;

прымяненне вядомага раней устройства, спосабу, рэчыва, штаму па новаму прызначэнню.

3. Не прызнаюцца вынаходствамі:

навуковыя тэорыі;

метады арганізацыі гаспадаркі і кіравання ёй;

умоўныя абазначэнні, расклады, правілы;

метады выканання разумовых аперацый;

алгарытмы і праграмы для вылічальных машын;

праекты і схемы планіроўкі збудаванняў, будынкаў, тэрыторый;

прапановы, якія датычацца толькі знешняга выгляду вырабаў, накіраваныя на задавальненне эстэтычных патрэбнасцей;

рашэнні, якія супярэчаць грамадскім інтарэсам, прынцыпам гуманнасці і маралі.

4. Не прызнаецца акалічнасцю, якая аказвае ўплыў на патэнтаздольнасць вынаходства, публічнае раскрыццё інфармацыі, што адносіцца да вынаходства, заяўнікам (аўтарам) або любой асобай, атрымаўшай ад яго прама ці ўскосна гэту інфармацыю, калі звесткі аб сутнасці вынаходства сталі агульнадаступнымі ў Рэспубліцы Беларусь або за мяжой, але раскрыццё ажыццёўлена на працягу дванаццаці месяцаў да даты падачы заяўкі ў Дзяржаўнае патэнтнае ведамства Рэспублікі Беларусь пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь[1] або ў выпадку заяўленага прыярытэту — да даты прыярытэту заяўкі. Пры гэтым абавязак даказвання дадзенай акалічнасці ляжыць на заяўніку.

5. Вынаходствы, што змяшчаюць звесткі, выдаванне якіх можа нанесці ўрон бяспецы Рэспублікі Беларусь, павінны быць засакрэчаны ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2. Аўтарства на вынаходства**

1. Аўтарам вынаходства прызнаецца грамадзянін, творчай працай якога яно створана.

Калі вынаходства створана сумеснай творчай працай некалькіх грамадзян, то ўсе яны прызнаюцца сааўтарамі вынаходства. Парадак карыстання правамі на вынаходства, створанае ў сааўтарстве, вызначаецца пагадненнем паміж сааўтарамі.

2. Не прызнаюцца сааўтарамі грамадзяне, якія не ўнеслі асабістага творчага ўкладу ў стварэнне вынаходства, а аказалі аўтару толькі тэхнічную, арганізацыйную або матэрыяльную дапамогу ці садзейнічалі афармленню права на вынаходства і выкарыстанню вынаходства.

3. Аўтару вынаходства належыць права аўтарства, якое з'яўляецца неадчужальным асабістым правам. Аўтарства на вынаходства ахоўваецца бестэрмінова.

**Артыкул 3. Прававая ахова вынаходства**

1. Права на вынаходства ахоўваецца дзяржавай і свёдчыцца патэнтам.

2. Патэнт на вынаходства сведчыць аўтарства на вынаходства, прыярытэт вынаходства і выключнае права патэнтаўладальніка на выкарыстанне вынаходства.

3. Патэнт на вынаходства дзейнічае на працягу дваццаці гадоў, лічачы з даты паступлення заяўкі ў Патэнтнае ведамства.

4. Аб'ём прававой аховы, якая прадастаўляецца патэнтам, вызначаецца формулай вынаходства. Апісанні і чарцяжы служаць толькі для тлумачэння формулы вынаходства.

5. Дзеянне патэнта, выдадзенага на спосаб атрымання прадукту, распаўсюджваецца і на прадукт, непасрэдна атрыманы гэтым спосабам.

Пры гэтым новы прадукт лічыцца атрыманым запатэнтаваным спосабам пры адсутнасці доказаў супрацьлеглага.

**Артыкул 4. Патэнтаўладальнік**

1. Патэнт на вынаходства выдаецца:

аўтару (аўтарам) вынаходства;

грамадзяніну (грамадзянам) або юрыдычнай асобе (асобам), якія ўказаны аўтарам вынаходства ў заяўцы на выдачу патэнта або ў заяве, пададзенай у Патэнтнае ведамства да ўнясення вынаходства ў Дзяржаўны рэестр вынаходстваў Рэспублікі Беларусь[2] пры наяўнасці дагавора;

наследніку аўтара вынаходства.

2. Патэнт на вынаходства, створанае работнікам, выдаецца работадаўцу, па заданню якога створана службовае вынаходства, калі паміж імі быў заключаны адпаведны дагавор.

Вынаходства лічыцца службовым, калі прадмет гэтага вынаходства адносіцца да галіны дзейнасці работадаўца і пры ўмове, што дзейнасць, якая прывяла да стварэння вынаходства, уваходзіць у кола службовых абавязкаў аўтара.

Пры гэтым работнік абавязаны пісьмова паведаміць работадаўцу аб стварэнні службовага вынаходства. Работадавец павінен у сваю чаргу на працягу трох месяцаў з дня атрымання ўказанага паведамлення пісьмова заявіць работніку, ці дамагаецца ён патэнта.

3. У выпадку адсутнасці паміж работнікам і работадаўцам адпаведнага дагавора або калі работадавец адмовіўся ад дамаганняў, патэнт выдаецца работніку — аўтару вынаходства. Работадавец мае права ў гэтым выпадку выкарыстаць гэта вынаходства на ўмовах, якія вызначаюцца ліцэнзійным дагаворам.

**Артыкул 5. Выключнае права на выкарыстанне вынаходства**

1. Выключнае права на выкарыстанне вынаходства належыць патэнтаўладальніку.

Ніхто не можа выкарыстаць вынаходства, на якое выдадзены патэнт, без згоды патэнтаўладальніка.

2. Выключнае права на выкарыстанне вынаходства прадастаўляе патэнтаўладальніку магчымасць выкарыстоўваць вынаходства паводле свайго меркавання, калі гэта не парушае правоў іншых патэнтаўладальнікаў, а таксама забараняць выкарыстанне вынаходства ў выпадках, якія супярэчаць гэтаму Закону.

3. Патэнтаўладальнік павінен выкарыстоўваць правы, што прадастаўляюцца патэнтам, без нанясення ўрону правам іншых грамадзян, інтарэсам грамадства і дзяржавы.

4. Парушэннем правоў патэнтаўладальніка прызнаецца несанкцыяніраваны выраб, прымяненне, увоз, прапанова да продажу, продаж і іншае ўвядзенне ў гаспадарчы абарот прадукту, што змяшчае запатэнтаванае вынаходства, а таксама прымяненне спосабу, які ахоўваецца патэнтам.

**Артыкул 6. Дзеянні, якія не прызнаюцца парушэннем выключнага права на выкарыстанне вынаходства**

Не прызнаюцца парушэннем выключнага права на выкарыстанне вынаходства:

прымяненне сродкаў, што змяшчаюць вынаходствы, ахаваныя патэнтамі, на борце марскіх або рачных суднаў іншых краін, у корпусе судна, у машынах, аснастцы, механізмах і іншым абсталяванні, калі гэтыя судны часова або выпадкова знаходзяцца ў водах Рэспублікі Беларусь, пры ўмове выкарыстання ўказаных сродкаў выключна для патрэб судна;

прымяненне сродкаў, што змяшчаюць вынаходствы, ахаваныя патэнтамі, у канструкцыі або пры эксплуатацыі паветраных, касмічных ці наземных сродкаў перамяшчэння або дапаможнага абсталявання для гэтых сродкаў іншых краін, калі ўказаныя сродкі перамяшчэння часова або выпадкова знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Указаныя дзеянні не прызнаюцца парушэннем выключнага права на выкарыстанне вынаходства, калі марскія або рачныя судны, паветраныя, касмічныя або наземныя сродкі перамяшчэння належаць грамадзянам або юрыдычным асобам краін, якія прадастаўляюць такія ж правы грамадзянам і юрыдычным асобам Рэспублікі Беларусь;

правядзенне навуковага даследавання або эксперыменту над сродкам, што змяшчае вынаходства, ахаванае патэнтам;

разавы выраб лякарстваў у аптэках па рэцэптах урача;

прымяненне сродкаў, што змяшчаюць вынаходствы, ахаваныя патэнтамі, у прыватным парадку без камерцыйных мэт;

прымяненне сродкаў, што змяшчаюць вынаходствы, ахаваныя патэнтамі, калі гэтыя сродкі ўведзены ў гаспадарчы абарот законным шляхам.

**Артыкул 7. Права папярэдняга карыстання**

Любы грамадзянін або юрыдычная асоба, якія да даты прыярытэту вынаходства, што ахоўваецца патэнтам, і незалежна ад яго аўтара стварылі і выкарысталі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь тоеснае вынаходству рашэнне або зрабілі неабходныя падрыхтоўкі да яго выкарыстання, захоўваюць права на далейшае бязвыплатнае выкарыстанне яго без пашырэння аб'ёму.

Права папярэдняга карыстання можа быць перададзена грамадзяніну або юрыдычнай асобе толькі сумесна з вытворчасцю, на якой мела месца выкарыстанне або былі зроблены неабходныя да яго падрыхтоўкі.

**Артыкул 8. Заяўка на выдачу патэнта на вынаходства**

1. Заяўка на выдачу патэнта на вынаходства[3] падаецца ў Патэнтнае ведамства:

аўтарам вынаходства;

работадаўцам пры наяўнасці ўмоў, прадугледжаных пунктам 2 артыкула 4 гэтага Закона;

грамадзянінам або юрыдычнай асобай, якім аўтар або работадавец перададуць на дагаворнай аснове сваё права на падачу заяўкі або да якіх яно перайшло ў адпаведнасці з заканадаўствам аб праве на спадчыну.

Заяўка можа быць пададзена праз патэнтнага паверанага, зарэгістраванага ў Патэнтным ведамстве.

2. Калі пры наяўнасці ўмоў, прадугледжаных пунктам 2 артыкула 4 гэтага Закона, работадаўца на працягу трох месяцаў з даты паведамлення яму аўтарам аб створаным вынаходстве не падасць заяўку, аўтар мае права падаць заяўку і атрымаць патэнт на сваё імя. Выкарыстанне вынаходства работадаўцам у гэтым выпадку ажыццяўляецца ў парадку, указаным у пункце 3 артыкула 4 гэтага Закона.

3. Грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь, або юрыдычныя асобы, што маюць пастаяннае месцазнаходжанне ў замежных краінах, ці іх патэнтныя паверанія вядуць у Рэспубліцы Беларусь справы па атрыманню патэнтаў на вынаходствы і падтрыманню іх у сіле праз беларускіх патэнтных паверанных, зарэгістраваных у Патэнтным ведамстве.

4. Заяўка павінна адносіцца да аднаго вынаходства або групы вынаходстваў, звязаных паміж сабой настолькі, што яны ўтвараюць адзіную вынаходніцкую ідэю (патрабаванне адзінства вынаходства).

5. Заяўка павінна змяшчаць:

заяву аб выдачы патэнта з указаннем аўтара (сааўтараў) вынаходства і асобы (асоб), на імя якой (якіх) запрошваюць аб патэнце, а таксама іх месцажыхарства і месцазнаходжання;

апісанне вынаходства, што раскрывае яго з паўнатой, дастатковай для ажыццяўлення вынаходства;

формулу вынаходства, якая выражае яго сутнасць і поўнасцю заснавана на апісанні;

чарцяжы і іншыя матэрыялы, калі яны неабходныя для разумення сутнасці вынаходства;

рэферат;

даверанасць.

Заяўка павінна змяшчаць дакумент, які пацвярджае выплату пошліны ва ўстаноўленым размеры або вызваленне ад выплаты ці наяўнасць падстаў для памяншэння яе размеру.

Патрабаванні да дакументаў заяўкі на вынаходства ўстанаўліваюцца Патэнтным ведамствам.

**Артыкул 9. Перадача права на патэнт і права на выкарыстанне вынаходства**

Права на патэнт і права на выкарыстанне вынаходства, якое вынікае з патэнта, могуць быць па дагавору перададзены грамадзяніну або юрыдычнай асобе. Дагавор рэгіструецца ў Патэнтным ведамстве. Дагавор без рэгістрацыі лічыцца несапраўдным.

**Артыкул 10. Прыярытэт вынаходства**

1. Прыярытэт вынаходства ўстанаўліваецца па даце паступлення ў Патэнтнае ведамства заяўкі, што змяшчае заяву аб выдачы патэнта, апісанне і формулу вынаходства, чарцяжы і іншыя матэрыялы, калі яны неабходныя для разумення сутнасці вынаходства і ў апісанні вынаходства ёсць спасылкі на іх.

2. Прыярытэт вынаходства можа быць устаноўлены па даце падачы першай заяўкі на вынаходства ў замежнай краіне — удзельніцы Парыжскай канвенцыі па ахове прамысловай уласнасці, калі ў Патэнтнае ведамства заяўка на вынаходства паступіла на працягу дванаццаці месяцаў з указанай даты.

Калі па абставінах, якія не залежаць ад заяўніка, заяўка з запрошваннем аб канвенцыйным прыярытэце не магла быць пададзена ва ўказаны тэрмін, апошні можа быць прадоўжаны, але не больш чым на два месяцы.

Заяўнік, які жадае выкарыстаць права канвенцыйнага прыярытэту, абавязаны ўказаць гэта пры падачы заяўкі на вынаходства або на працягу двух месяцаў з даты паступлення заяўкі ў Патэнтнае ведамства, прыклаўшы пры гэтым неабходныя дакументы, якія пацвярджаюць правамернасць такога патрабавання, або прадставіць гэтыя дакументы не пазней трох месяцаў з даты паступлення заяўкі ў Патэнтнае ведамства.

3. Прыярытэт вынаходства можа быць устаноўлены па даце паступлення ў Патэнтнае ведамства больш ранняй заяўкі таго ж заяўніка, якая раскрывае гэта вынаходства, калі заяўка, па якой запрошваюць аб такім прыярытэце, паступіла не пазней чым праз дванаццаць месяцаў з даты паступлення больш ранняй заяўкі. Пры гэтым больш ранняя заяўка лічыцца адазванай.

Прыярытэт вынаходства можа быць устаноўлены на падставе некалькіх раней пададзеных заявак з захаваннем для кожнай з іх указаных умоў.

Прыярытэт вынаходства не можа ўстанаўлівацца па даце паступлення заяўкі, па якой ужо запрошвалі больш ранні прыярытэт.

**Артыкул 11. Экспертыза заяўкі на выдачу патэнта на вынаходства**

1. Экспертыза заяўкі ажыццяўляецца Патэнтным ведамствам і ўключае папярэднюю і патэнтную экспертызы, якія праводзяцца ў адпаведнасці з гэтым Законам і правіламі, устаноўленымі Патэнтным ведамствам на яго аснове.

Заяўнік мае права па сваёй ініцыятыве або па запрашэнню дзяржаўнага патэнтнага эксперта асабіста ці праз свайго прадстаўніка прымаць удзел у разглядзе пытанняў, якія ўзнікаюць у ходзе папярэдняй і патэнтнай экспертыз.

(Заканчэнне на 5-й стар.)

